# Тыднёвік Магілёўскі




№ 23 (138) 7 – 13 сьнежня 2001 г. Кошт 80 руб.


## ... Пакуль унёсак надта сьціплы





Фота IREX

*У бліжэйшы панядзелак, 10 сьнежня, цывілізаванае чалавецтва ў чарговы – 53-ці – раз адзначыць Дзень прыняцьця Ўсеагульнай Дэклярацыі Правоў Чалавека.*

*У гэтым сапраўды гістарычным дакумэнце ААН абвесьціла ў ясных і зразумелых выразах правы, якія ў роўнай ступені належаць* **кожнаму чалавеку.** *На жаль, за прамінулы ад прыняцьця дакумэнта час у шмат якіх краінах правы чалавека яшчэ ня сталіся зразумелым, звычайным, натуральным і неад'емным паказчыкам якасьці і зьместу грамадзянскага жыцьця. Пры гэтым найболыш цынічна паводзяць сябе ўрады тых краінаў, якія паставілі свой подпіс пад Дэклярацыяй, але й ня думаюць спрыяць увасабленьню правоў чалавека ў штодзённы побыт, мараль людзей. На жаль, і самое грамадзтва ў падобных краінах нярэдка ставіцца абыякава да дзейнасьці тых, хто насуперак паводзінам дзяржаўнага апарату імкнецца абараняць сьвятыя чалавечыя правы й штодня адваёўвае на гэтым полі хоць бы малы плацдарм.*

*Сёньня ёсьць выдатная нагода сказаць гэтым непахісным змагарам шчырае дзякуй.*

*Напярэдадні 10-га сьнежня "ТМ" зьвярнуўся да кіраўнікоў мясцовых грамадзкіх арганізацыяў, якія вызнаюць Дэклярацыю за грунт уласнай дзейнасьці, з двума пытаньнямі:*

*1. У чым, на Ваш погляд, карысьць Дэклярацыі правоў чалавека для Беларусі?*

*2. Які ўнёсак зрабіла Беларусь дзеля сьцьверджаньня прынцыпаў, замацаваных у Дэклярацыі?*

*На гэтую кароткую анкету адказалі...*

**Аляксей КОЛЧЫН,** *кіраўнік абласнога аддзяленьня праваабарончага цэнтру "Вясна":*

*1. Карысьць Дэклярацыі для нашай краіны ў тым, чым яна карысная для любой іншай краіны, любога іншага грамадзтва. Гэта такі звод гуманных прынцыпаў, на якія абавязкова трэба арыентавацца, дасягаць іх. Дэклярацыя, дакладней, стаўленьне да яе – гэта тое, па чым зь вялікай доляй праўдзівасьці і дакладнасьці можна ацэньваць самую ступень цывілізаванасьці грамадзтва. Я адназнакаў ставіць ня буду, няхай сам чытач прыкладзе да сябе і знаёмых прынцыпы Дэклярацыі й сам зробіць выснову наконт нашай цывілізаванасьці.*

*2. Вядомая прымаўка сьцьвярджае, што любы досьвед карысны: і пазытыўны, і адмоўны. Нашая краіна, ці лепш сказаць, прыклад нашай краіны ня ёсьць выключэньнем. Мы робім свой адпаведны ўнёсак у агульначалавечую скарбонку вопыту, шуканьня шляху, памылак і г.д. Унёсак пераканаўчы для тых, хто ўмее бачыць і аналізаваць.*

**Сяргей АБАДОЎСКІ,** *дырэктар Магілёўскага праваабарончага Цэнтру:*

*1. Дэклярацыя важная для ўсіх. Яе прыняла супольнасьць народаў сьвету. Разам зь іншымі нашая краіна (у той пасьляваенны час у якасьці адной з рэспублікаў СССР) фармулявала гэтыя прынцыпы і добраахвотна пад імі падпісалася, тым самым узяўшы на сябе пэўныя абавязкі.*

*2. На жаль, на гэтым – на падпісаньні Дэклярацыі – беларускі ўнёсак у сусьветную каштоўнасьць і абрываецца. Да выкананьня Дэклярацыі справа не даходзіць. Спробы рабіць гэта выглядаюць фармальна, вымушана. Таму й эфэкт даюць такі ж – фармальны.*

**Уладзімер КРАЎЧАНКА,** *старшыня Магілёўскага аддзяленьня Беларускага Хельсінскага Камітэту:*

*1. У Дэклярацыі дакладна пералічаныя фундамэнтальныя правы чалавека. У гэтым карысьць. Аднак беларускае кіраўніцтва, мяркуючы па ўсім, менш за ўсё зацікаўленае ў тым, каб насельніцтва краіны ведала пра гэты дакумэнт і разумела ягоны зьмест. Ёсьць, калі так можна сказаць, адваротная "карысьць". Невыкананьне ў нашай краіне правоў чалавека разам з бракам дэмакратычнага кіраваньня самой краінаю за апошнія гады прывяло да таго, што Беларусь па ўзроўню жыцьця скацілася з 10-га месца ў сьвеце на 53-яе.*

*2. Пазьбегнуць далейшага падзеньня, на наш погляд, можна, скарыстаўшыся слушнай прапановай аб "кольным стале" улады і апазыцыі. Вось гэта быў бы найлепшы беларускі ўнёсак у сьцьверджаньне і выкананьне прынцыпаў Дэклярацыі правоў чалавека.*

**(Працяг тэмы на 3-й стар.)**

## Сьветлай памяці Натальлі Рославай



Ёсьць людзі, пра якіх цяжка пісаць пры жыцьці. Яшчэ цяжэй пісаць пра іх, калі яны паміраюць. І не таму толькі, што звычайна гэта людзі з асаблівым лёсам, асаблівым характарам. Прычына ў тым, што пісаць пра іх спрошчана немагчыма, а любая складанасьць хутка пераўтвараецца ў пошлую драбноту... Але і не пісаць нельга.

На 51-ым годзе жыцьця памёрла Натальля Рослава. Памёрла – гэта значыць, што яе ўжо няма сярод нас, што яна належыць гісторыі, памяці, стала нашым мінулым.

Заўжды яна ўражвала несупадзеньнямі. Маленькая і хрупкая, яна прымушала падпарадкоўвацца вялікіх і моцных. Іранічная і жорсткая ў адзнаках, яна раптам адкрывалася глыбінёй нечаканай сардэчнасьці і любові. Адчайная і рашучая, яна магла спыніцца ў разгубленасьці і нявпэўнасьці.

Дык кім жа была Натальля Арсеньеўна? Яна казала пра Бога, відавочна трымаючы зь ім няпросты ўнутраны дыялёг, які, магчыма, пры яе жыцьці так і ня быў скончаны. Яна ішла на барыкады, захоўваючы халоднасьць думкі. Яна дазваляла сабе раскошу безшабашнасьці і неразважлівасьці, пры гэтым памятаючы (і вельмі разважліва!) пра сумленьне, сваё ды іншых, якое трэба пры ўсіх нягодах захаваць. Яна рабіла памылкі, плакала ў адзіноце, адчуваючы непазьбежнасьць свайго лёсу, чыёй таленавітай стваральніцай, але і ахвярай, была. А лёс яе адлюстраваў час, адлюстраваў ягоныя надзеі ды іхнюю недасканаласьць.

Натальля Арсеньеўна, Наташа, спадарыня ці таварыш Рослава, – хто як клікаў яе. А яна адгукалася ўсьмешкай, у якой кожны бачыў то сяброўскую іронію, то сьмеласьць, то – погляд пераможнай прыстойнасьці. Але ніхто ня бачыў бязьлікасьці, ніхто не праходзіў, не заўважыўшы яе, не пачуўшы нягромкага дакладнага голасу.

... Жыцьцё Натальлі Рославай было працяглым шляхам з путаў рабства да ўсьведамленьня ўласнай свабоды. У перабудовачныя гады яна, будучы дэпутатам аблсавету, стварыла грамадзянскі камітэт "Дзецям Чарнобыля". Па-сутнасьці гэта было змаганьне за тое, каб у Беларусі перамаглі сумленнасьць і праўда.

Ёй трэба было прайсьці гэткі шлях самой. Яна бегла, ірвалася, крочыла... Ці ўсё зрабіла на сваім шляху як мусіла? Адно магу пацьвердзіць: Натальля Арсеньеўна ведала, што ахвяруе сваім жыцьцём дзеля высокіх ідэалаў свабоды і годнасьці. Яна ахвяравала ім за ўсіх нас, нават бяз нашага дазволу. Яна не пыталася, ці чакаюць ад яе ахвяраў, не клапацілася аб тым, ці прыгожа яны выглядаюць... Значнасьць гэтых ахвяраў часта незразумелая для людзей, калі, канешне, не паспрабаваць зірнуць на сьвет вачыма, якія некалькі дзён таму зачыніліся...

Скончылася зямное жыцьцё Чалавека, зь яго надзеямі, няўдачамі, памылкамі і перамогамі. Натальля Рослава годна пранесла сваю Сьвечку, ад якой сыходзілі промні будучыні. Хочацца спадзявацца, што гэтае сьвятло застанецца з намі назаўсёды.

***Сымон Глазштэйн***

**4-га сьнежня пайшоў з жыцьця наш калега Мікалай Худаешка, рэдактар недзяржаўнай газэты «Новый Лукомль», чалавек шчыры і адданы працы. Праўленьне Беларускай асацыяцыі журналістаў шчыра смуткуе з прычыны яго заўчаснай сьмерці і выказвае спачуваньні сям'і, блізкім, калегам і рэдакцыі газэты... "Тыднёвік" далучаецца да словаў смутку і журботы.**



# Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

3-га сьнежня быў Дзень інваліда. Што паказальна ў наш час, дык гэта тое, што менавіта грамадзкія арганізацыі, а не дзяржава, прапаноўваюць шляхі сацыяльнай адаптацыі людзей з абмежаванымі магчымасьцямі (так называюць ва ўсім сьвеце тых, каго мы мянуем інвалідамі). ГА "Прамень надзеі", напрыклад, наладзіла сустрэчу сваіх сябраў з чыноўнікамі, якія мусілі адказваць на пытаньні, браць на ўвагу скаргі і пажаданьні. Па выніках сустрэчы быў складзены адпаведны пратакол, а сацыяльным службам горада дадзеныя канкрэтныя даручэньні, за выкананьнем якіх можна будзе прасачыць. Грамадзкая арганізацыя бацькоў дзяцей-інвалідаў наладзіла для сваіх дзетак гістарычную экскурсію па Магілёве, правяла зь імі "спартляндыю". ГА "Арганізацыя рэабілітацыі і спорту інвалідаў-калясачнікаў" з дапамогаю іншых грамадзкіх аб'яднаньняў правяла адкрыты чэмпіянат па шматбор'і "Залатое кола". Добра было б, каб усе гэтыя арганізацыі разьвівалі й пашыралі сваю дзейнасьць.

"Ліфтмаш" распачаў мадэрнізацыю ліфтавай гаспадаркі... Кіева. Адміністрацыя ўкраінскай сталіцы замовіла прадукцыю нашага заводу, каб замяніць адпаведную састарэлую сваю. Ужо пастаўлена амаль паўсотні магілёўскіх ліфтаў. Усе яны вырабляюцца "з папраўкай на савецкага чалавека". Кабіны пакрытыя адмысловай вельмі трывалай фарбай, а кнопкі – мэталёвыя, каб ніхто не прапаліў. Увогуле, магілёўскія ліфты купляюць краіны Балтыі, Польшча, і нават больш заходнія эўрапейскія суседзі. Аказваецца, нерасейскі вэктар прамысловага разьвіцьця таксамаварты ўвагі...

Як было паведамлена на паседжаньні аблвыканкаму, банкаўскія ўстановы вобласьці з пачатку года выплацілі людзям амаль 600 мільярдаў рублёў. А вось вярнулася назад у выглядзе разнастайных плацяжоў, аплатаў за тавары і паслугі ўсяго 67% ад названай сумы. Куды падзелася астатняе? Лічыцца, што грамадзяне вывезьлі гэтыя грошы за межы вобласьці й там іх патрацілі. Частку зь іх абмянялі ў надзейную валюту, якую захоўваюць дома. Чыноўнікі прапанавалі некаторыя меры, як такі стан выправіць (бо замест рынку ў нас загады). Напрыклад, можна выплочваць не наяўнымі, а пераводзіць грошы адразу на рахункі. Ці яшчэ – забараніць прыватнікам гандляваць перад прадпрыемствамі ў дзень "палучкі". Пакуль, аднак, аблвыканкам ня вырашыўся рэалізоўваць гэтыя меры. Але, здаецца, толькі пакуль...

На ўзьбярэжжы Дняпра ўлады зьбіраюцца адчыніць капліцу ў памяць салдатаў Савецкай Арміі, што загінулі, выконваючы так званы "інтэрнацыянальны доўг". На помніку ў капліцы будзе напісана: "Слаўным сынам Айчыны – удзячная Маці-Беларусь". Абсурд відавочны, бо Беларусь сваіх сыноў гінуць за камуністычную імпэрыю не пасылала. Рабіў гэта СССР, які варожа ставіўся да ўсіх нацыяў, прадстаўнікі якіх былі яго падданымі. Пакуль такое ў нас магчыма, то няма чаго зьдзіўляцца зьніненьню ў краіне людзей, а таксама таму, што былая савецкая зброя прадаецца антыдэмакратычным рэжымам. Між тым, на кар'еры насупраць мясакамбінату, дзе чэкісты забівалі ні ў чым невінаватых сыноў беларускай зямлі, ніхто – у тым ліку ўлада – капліцы не будуе.

У Магілёве ладзіўся абласны тур 4-га фэстывалю нацыянальных культураў Беларусі. Прадстаўнікі розных дыяспараў – палякі, габрэі, азэрбайджанцы, татары, армяне, грузіны й іншыя дэманстравалі ў палацы культуры МВА "Хімвалакно" адметныя бакі сваіх культураў і вырабы нацыянальных кухняў. Шкада толькі, што фэстываль, фінал якога адбудзецца ў наступным годзе ў Горадні, занадта фармалізаваны. Чамусьці гэтая дзея адбываецца заўсёды неяк у баку ад грамадзкасьці. Вось і аб прайшоўшым туры большасьць цікаўных даведалася постфактум.

Гарвыканкам вырашыў, што навагоднюю елку, якую звычайна ставілі перад Домам Саветаў, цяпер трэба перанесьці да дыягнастычнага цэнтру. Аказваецца, елка і тыя атракцыёны, што ставяць каля яе – вельмі несур'ёзныя справы, якія не адпавядаюць статусу месца і перашкаджаюць "дзелавому рытму" магілёўскай бюракратыі. Сапраўды: Дзед Каляда побач зь Леніным – гэта нешта ня тое. Ды й цяжка працаваць, калі побач сьмяюцца дзеці...

*Да сустрэчы праз тыдзень,*
*Сымон Глазштэйн.*

# Прывідная моц рэжыму

***Вядучы нямецкі экспэрт у пытаньнях Беларусі і Расеі доктар Гайнз Тымэрман лічыць, што афіцыйны Менск адчувае сябе вельмі ненадзейна.***

Ён заявіў, што зьвязанае гэтае пачуцьцё ненадзейнасьці зь няпэўным станам, у якім рэжым апынуўся ў выніку амэрыканска-расейскага збліжэньня. Адказваючы на пытаньне, якую новую лінію будзе праводзіць місія АБСЭ ў Беларусі пасьля ад'езду сп.Віка й прызначэньня новага кіраўніка, Г.Тымэрман сказаў, што "у прынцыпе будзе тая ж лінія". Далей экспэрт дадаў, што эўрапейскім палітыкам трэба быць гатовымі мець далейшыя кантакты з беларускім рэжымам і ягонымі прадстаўнікамі. Пры гэтым ён заявіў, што "усім вядома, што вынікі прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі зманіпуляваныя".

Г.Тымэрман адзначыў таксама, што калі збліжэньне Расеі з Захадам працягнецца й надалей, то афіцыйны Менск страціць свой галоўны зьнешнепалітычны козыр, і ня будзе ў стане працягваць сваю ранейшую палітыку. "Мне падаецца якраз, што цяпер рэжым не такі ўжо маналітны, як быў раней", – падкрэсьліў ён.

***Алена ПАНКРАТАВА***

# Хто з кім у хаўрусе?

***"Пасьля збліжэньня Пуціна з Бушам і падтрымкі Расеяй вайны Захаду супраць тэрарызму ці патрэбны будзе Расеі хаўрусьнік, які хоча абараняць яе заходнія межы перад варожымі крокамі NATO і ЗША?" – піша вядучы польскі штодзённік Gazeta Wyborcza.***

Публіцыст Цэзары Галіньскі нагадвае, што "антызаходнюю палітыку Менск пасьлядоўна праводзіў аж да верасьня гэтага году – з рэзыдэнцыяў выкідалі заходніх амбасадараў, а з краіны – заходнія ўстановы, як, напрыклад, Фонд Сораса. На Беларусі час ад часу лавілі заходніх шпіёнаў, а апазыцыянэраў, якія кантактавалі з Захадам, называлі "пятай калёнай".

Далей аўтар піша аб тым, што пасьля атакі на ЗША 11-га верасьня кіраўніцтва Беларусі адчула... выразную палёгку, бо заходнія журналісты й назіральнікі па-сутнасьці не пасьпелі абвінаваціць уладу ў маніпуляваньні вынікамі прэзыдэнцкіх выбараў. "У параўнаньні з амэрыканскай трагедыяй выбары ў невялікай Беларусі ўжо мала каго цікавілі", – гаворыцца ў артыкуле.

Далей аўтар адзначае, што ў заходнім і расейскім друку апошнім часам зьявілася шмат артыкулаў пра продаж Беларусьсю зброі, якая, магчыма, трапляе ў рукі тэрарыстаў. Паводле польскіх экспэртаў з Інстытуту Ўсходніх дасьледаваньняў, чые меркаваньні падае Цэзары Галіньскі, Лукашэнка для Расеі становіцца вельмі невыгодным.

***Аляксей ДЗІКАВІЦКІ***

# Па-за Альянсам застануцца адзінкі

***Вышэйшы сход Паўночна-Атлянтычнага альянсу, які адбудзецца ў наступным годзе ў Празе, будзе мець агромнае гістарычнае значэньне.***




У гэтым упэўнены прэзыдэнт Чэскай Рэспублікі Вацлаў Гавал. Ён мяркуе, што хоць ня ўсе дзяржавы, якія таго хочуць, адразу могуць быць прынятыя ў NATO, падчас сходу трэба будзе ясна сказаць, хто ўвогуле мог бы стаць патэнцыйным сябрам Альянсу. Сярод магчымых прэтэндэнтаў В.Гавал згадаў Славаччыну, Румынію, Баўгарыю, Славенію й тры балцкія краіны – Літву, Латвію й Эстонію. Таксама чэскі прэзыдэнт выказаў думку, што NATO можа пашырыцца на Харватыю, Сэрбію й Альбанію. Што ж да Расеі, то насуперак шматлікім сьцьверджаньням аб тым, што ўступленьне гэтай краіны ў NATO пажаданае і цалкам магчымае ў недалёкай будучыні, прэзыдэнт Гавал мяркуе інакш. Ён лічыць, што цяперашнія добрыя стасункі паміж Альянсам і Масквой маюць за падмурак якраз каапэрацыю дакладна разьмежаваных партнэраў.

***Паводле паведамленьня Інфасэрвіса Беларускага цэнтру ў Празе***

# Імітацыя абыходзіцца ўсяго даражэй

***Колькасьць ільготнікаў будзе радыкальна зьменшаная, і дадзеная акалічнасьць будзе ўлічаная ўжо ў часе фармаваньня бюджэту на бліжэйшую беларускую "пяцігодку".***

Пра гэта заявіла міністар працы і сацыяльнай абароны Антаніна Морава. Адмыслоўцы, аднак, кажуць, што трэба скарачаць не асобныя катэгорыі грамадзянаў, якія карыстаюцца льготамі, а самі льготы. На сёньня блізу 6-ці млн. грамадзянаў Беларусі – практычна 60% усяго насельніцтва – карыстаюцца дзяржаўнымі льготамі. Не з дабрыні, зразумела, дзяржавы, а таму, што яна ня ў стане даць людзям прыстойныя заробкі, пэнсіі і стыпэндыі. Таму й імітуе кампэнсаваньне недастаючага праз сыстэму льготаў. Яна ж, гэтая сыстэма, мае тэндэнцыю да разрастаньня: сёньня выдаткі на сацыяльнае забесьпячэньне ажно 200 (!) катэгорыяў ільготнікаў складаюць 14% ад сукупнага ўнутранага прадукту краіны. Пры гэтым замежныя экспэрты справядліва лічаць, што бюджэт 40% жыхароў краіны не перавышае пражытковага ўзроўню.

У гэткіх умовах любая дапамога павінна быць адраснай, а значыць трэба тэрмінова вызначыць дакладны крытэр ейнага аказаньня. Бо ёсьць падставы меркаваць, што амаль 70% льготных выплатаў ідуць не на патрэбы малазабясьпечаных, а тым, каго насамрэч цяжка назваць беднымі (аднак яны, напрыклад, выслужылі свае тэрміны ў міліцыі, войску, на дзяржаўнай пасадзе).

Эканаміст Аляксандар Сасноў лічыць, што ўрад ня мае ніякага рэальнага мэханізму для пераразьмеркаваньня сродкаў. "Але можна знайсьці сродкі для вырашэньня праблемы, – мяркуе ён. – Дзеля гэтага дзяржаўныя выдаткі, якія ня маюць відавочнай патрэбы, прыкладам, на лядовыя палацы, трэба накіроўваць на вырашэньне менавіта гэтага пытаньня".

***Ігар КАРНЕЙ***

# "Не!" — адказаў суд

***Суд Цэнтральнага раёну Магілёва адмовіўся задаволіць скаргу юрысконсульта Свабоднага прафсаюзу Беларускага Аляксандра Каралёва на дзеяньні мясцовай міліцыі.***

Спадар Каралёў патрабаваў, каб міліцыянты вярнулі яму сканфіскаваныя ў жніўні некалькі соцень маек з надпісам "Скажы дурню – НЕ!". Юрысконсульт Свабоднага прафсаюзу назваў дзеяньні міліцыянтаў звычайным рабаўніцтвам. На судзе ён заявіў, што гэтыя майкі яму падарылі, і таму яны зьяўляюцца ягонай уласнасьцю. З гэтымі аргумэнтамі не пагадзілася судзьдзя Галіна Кужалева. Паводле ейнага меркаваньня, супрацоўнікі Цэнтральнага РАУС, якія забралі майкі з камэры захоўваньня заводу "Зэніт", зрабілі ўсё паводле закону. Дарэчы, тады ў жніўні яны шукалі ня майкі, а нібыта скрадзеную заводзкую прадукцыю, пра якую ім паведамілі праз ананімнае тэлефанаваньне ў аддзяленьне.

Падчас разгляду справы раз-пораз узгадваліся прэзыдэнцкія выбары й казалася пра агітацыйны характар тых маек. Але ніхто з адказчыкаў так і не адважыўся назваць прозьвішча чалавека, які, як тое падаецца верагодным, на іх намаляваны. Усе толькі раілі А.Каралёву "паважаць выбар беларускага народу". А паколькі майкі носяць выразна агітацыйны характар, то, паводле меркаваньня адказчыкаў у судзе, яны не маглі быць асабістымі рэчамі Каралёва. Менавіта таму суд не задаволіў ягоную скаргу.

Як адзначыў пасьля заканчэньня суда аўтар пазову, такога выроку ён не чакаў, бо меў усё ж нейкую надзею на сваю перамогу. Цяпер А.Каралёў будзе падаваць скаргу ў абласны суд, потым, хутчэй за ўсё, – у Вярхоўны, а калі спатрэбіцца – то і ў суд ААН па правах чалавека.

***Алесь СЕРДЗЮКОЎ***

# За што стаіць "Народная Воля"

***Днямі "ТМ" атрымаў пасланьне ад галоўнага рэдактара "Народнай Волі" І.Сярэдзіча з адпаведнай просьбай, якую й задавальняе ў сёньняшнім нумары. Паколькі нашая газэта друкуецца толькі ў беларускім варыянце, мы ўзялі на сябе адказнасьць за пераклад тэксту калегі. Мусім зазначыць, што ў выніку зварот Іосіфа Паўлавіча атрымаўся крыху менш аб'ёмным за арыгінал, аднак сэнс яго дакладна захаваўся.***

**Шаноўныя сябры!**

Я задаволены тым, што Вы чытаеце "Тыднёвік Магілёўскі". Але я ўпэўнены ў тым, што Вы зацікаўленыя ў атрыманьні як мага большага аб'ёму праўдзівай інфармацыі. Аб тым, што адбываецца ў Менску, у краіне, ва ўсім сьвеце, Вы можаце даведацца з рэспубліканскай газэты "Народная Воля".



... У 1995-ым годзе Лукашэнка, парушыўшы ўсе законы, адхіліў мяне ад пасады галоўнага рэдактара тагачаснай "Народнай Газэты" – органа Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусі. Я ня стаў на калені, а стварыў сваю газэту – "Народную Волю", якая паспытала ўжо і друкарскую эміграцыю, і судовы перасьлед, аднак вытрывала й цяпер мае адзін з самых вялікіх накладаў сярод недзяржаўных газэтаў.

"Народная Воля" друкуецца пяць разоў на тыдзень у беларуска-рускім варыянце. Для "Народнай Волі" не існуе забароненых тэматаў. Галоўнае для нас – гэта нацыянальнае адраджэньне Беларусі, умацаваньне дэмакратыі, абарона правоў асобы. "НВ" ня церпіць карупцыянэраў, моцна крытыкуе тых, хто шмат гамоніць, але мала робіць, незалежна ад таго, дзяржаўны гэта чыноўнік ці апазыцыянэр. "НВ" заўжды піша праўду, нават калі яна горкая!

Вось індэксы нашай газэты:

63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, якія ня маюць льготаў (кошт падпіскі на месяц 3000 рублёў).

63429 – для льготных падпісчыкаў (кошт падпіскі на месяц 2800 рублёў).

63225 – падпіска для арганізацыяў.

Жадаю Вам, дарагія сябры, асабістага шчасьця!

*З павагай –*
***Іосіф СЯРЭДЗІЧ,***
***заснавальнік і галоўны рэдактар "Народнай Волі"***

# Гісторыя заўсёды побач

***З 23-га па 25-га лістапада ў Магілёве праходзіла міжнародная канфэрэнцыя "Праблемы пэрыядызацыі гісторыі Беларусі".***

Арганізатарамі выступілі Беларускае Гістарычнае й Магілёўскае Краязнаўчае Таварыствы. Акрамя ўласна беларускіх гісторыкаў і краязнаўцаў з Горадні, Менску, Гомлі, Магілёву ў працы канфэрэнцыі бралі ўдзел вядомыя навукоўцы з Польшчы й Расеі.

Абраны тэмат канфэрэнцыі ня быў выпадковым: Беларускае Гістарычнае Таварыства гуртуе прыхільнікаў нацыянальнай гістарычнай канцэпцыі, на грунце якой дасьледуецца гісторыя краіны як гісторыя суб'екта, але не аб'екта.

Былі зачытаныя даклады па шырокім спэктры праблемаў культурнага кантэксту. Дыскусіі, што суправаджалі выступы, сьведчылі аб неадназначным стаўленьні аўдыторыі да некаторых гістарычных інавацыяў. Вартыя адзначэньня даклады "Беларуская гістарычная праблема пэрыядызацыі" В.Астрогі, "Апытаньні пра пачатак навуковага вывучэньня гісторыі Беларусі" С.Міхальчанкі, "Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага: пэрыядызацыя выданьня й вывучэньня" В.Мянжынскага, "Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў 20-ым стагодзьдзі" І.Кузьняцова. Гарачыя дыскусіі разгарнуліся пасьля выступаў на тэму гісторыі беларускага этнасу.

Па выніках працы навуковай канфэрэнцыі мае быць падрыхтаванае й выдадзенае адмысловае выданьне.

***Алесь АСІПЦОЎ***

# Рыцары, адгукніцеся!

***Напрыканцы лістапада ў Менску была створаная Міжнародная Сярэднявечная Ліга, якую заснавалі прадстаўнікі 23-ох рыцарскіх клюбаў зь Беларусі, Латвіі, Літвы, Расеі, Украіны й Эстоніі.***

Сярод заснавальнікаў – 17 беларускіх рыцарскіх клюбаў, якія, дарэчы, ня маюць дзяржаўнай рэгістрацыі. Усе стваральнікі Лігі займаюцца рэканструкцыяй зброі, вопраткі, посуду, а таксама падзеяў пэрыяду 9-16 стагодзьдзяў: дзяржаўных і этнічных утварэньняў Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Лівоніі, Прусіі, Залатой Арды, Русі.

Сярод мэтаў новай грамадзкай арганізацыі – абараняць гістарычныя помнікі, прыцягваць да іх увагу людзей, абуджаць цікавасьць да гісторыі. Зараз рыцары рыхтуюцца да мерапрыемстваў, што будуць праходзіць у 2002-ім годзе, у прыватнасьці – да Другога сярэднявечнага фэсту "Наваградзкі замак", што заплянаваны на 29-30 чэрвеня.

На Першым Наваградзкім фэсьце, дарэчы, вызначыўся майстэрствам, зброяй і яркай вопраткай рыцарскі клюб з Магілёву, пра які, на жаль, даўно нічога не чуваць.

***Паводле BARC***



# Усё больш абмежаваньняў

***"ТМ" ужо паведамляў аб тым, што Міністэрства інфармацыі РБ (былы Дзяржкамдрук) падрыхтавала новы праект Закону аб друку.***

Ягоны разгляд у "палаце" заплянаваны на пачатак вясны. Аднак ужо цяпер ён пачаў актыўна абмяркоўвацца журналістамі й рэдактарамі, пераважна незалежных беларускіх выданьняў. Падчас "кольнага стала", які прайшоў 30-га лістапада ў Менску, выступіў адзін з аўтараў новых паправак, начальнік прававога ўпраўленьня Міністэрства інфармацыі Ігар Коваль. Ён засярodзіў увагу прысутных на некаторых прагрэсыўных новаўводах, якія, аднак, ня ёсьць галоўнымі, на думку незалежных экспэртаў, элемэнтамі новай рэдакцыі закону.

Міхаіл Пастухоў, кіраўнік Цэнтру прававой абароны СМІ пры Беларускай асацыяцыі журналістаў, дакладна ацаніў прадстаўлены праект як новае абмежаваньне свабоды слова і інфармацыі ў краіне. Ён прывёў аргумэнты юрыстаў, згодна зь якімі становішча беларускіх незалежных СМІ значна пагоршыцца ў выпадку прыняцьця новага закону. Напрыклад, артыкул 6 вельмі пашырана трактуе паняцьце "злоўжываньне масавай інфармацыяй"; артыкул 8 дае значныя фінансовыя перавагі дзяржаўным СМІ; артыкул 20 прадугледжвае пазасудовае ануляваньне Міністэрствам інфармацыі рэгістрацыі выданьняў; артыкул 68 замацоўвае існуючую практыку спыненьня дзейнасьці сродка масавай інфармацыі па ініцыятыве пракурораў усіх узроўняў. Таксама, на думку экспэртаў, артыкул 16, які змушае любое выданьне з накладам да 500 асобнікаў прад'яўляць кантрольны экзэмпляр у мясцовы выканкам, практычна ўводзіць цэнзуру.

***Паводле Barc-news***

# Колькі трэба хадзіць за праўдай

**ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА**



***Сябра ініцыятыўнай групы былога кандыдата на прэзыдэнта Ўладзімера Ганчарыка магілёвец Павал Марозаў шукае праўды ў судзе...***

У часе прэзыдэнцкай кампаніі, 4-га верасьня Павал быў дастаўлены ў міліцыю "за зьдзяйсьненьне дробнага хуліганства". Пры даглядзе ў яго была знойдзеная перадвыбарная друкаваная прадукцыя. У далейшым гэтай справай займалася адміністратыўная камісія Ленінскага раёну Магілёва. У адсутнасьці абвінавачанага, бяз подпісаў пад пастановай старшыні камісіі, Паўла Марозава аштрафавалі на 5 мінімальных заробкаў за распаўсюд друкаванай прадукцыі без выходных дадзеных. Абураны гэтым фактам, П.Марозаў накіраваў у суд скаргу, у якой прасіў адмяніць пастанову адміністратыўнай камісі ды прыцягнуць да адказнасьці ейнага сакратара Кандраценку, якая не забясьпечыла ягонай прысутнасьці на паседжаньні. Таксама ён прасіў вынесьці прыватныя азначэньні на адрас адміністратыўнай камісіі, пракуратуры вобласьці, управы ўнутраных справаў аблвыканкама, адміністрацыі Ленінскага раёну, вярнуць яму вынятыя друкаваныя матэрыялы ды спагнаць з раённай адміністрацыі за маральныя пакуты 75 тысяч рублёў.

Справу разглядала раённы судзьдзя Тацяна Тупік. Інтарэсы Марозава адстойваў сябра праваабарончай арганізацыі "Вясна" Барыс Бухель. Адміністрацыю прэзэнтавала вышэйзгаданая спадарыня Кандраценка, якая даводзіла, што даслала Паўлу Марозаву позву. Аднак дапытаная ў судзе супрацоўніца пошты, якая дастаўляла ліст, засьведчыла, што апусьціла яго ў паштовую скрыню, бо гаспадароў дома не было. (Бальшыня скрыняў, дарэчы, у тым пад'езьдзе зламаная).

У часе разьбіральніцтва пракурор Мандрыкава прапанавала задаволіць скаргу часткова: адмяніць пастанову адміністратыўнай камісіі ды накіраваць скаргу на новы разгляд. Судзьдзя гэтую прапанову падтрымала. Заяўнік, аднак, з гэтым рашэньнем не згадзіўся й будзе абскарджваць яго ў прадугледжаным законам парадку. Ён намераны дамагчыся справядлівасьці.

***Алесь ДАЙНЕКА***

# Шмат цікавага за актуальнай вокладкай

***Магілёўскае грамадзкае аб'яднаньне "Лекарскі саюз" падало сур'ёзную (зрэшты, як заўжды) нагоду для ўзгадваньня пра сябе ў сродках масавай інфармацыі.***

Гэтым разам такой нагодай сталася выданьне інфармацыйна-навуковага бюлетэню пад назвай "Чарнобыль і здароўе". Пад сьціплай вокладкай 35-старонкавай брашуры зьмясьцілася больш за 10 артыкулаў вядучых лекараў Магілёўшчыны, якія ўпарта і зь верай у перамогу працуюць над вырашэньнем мэдыка-сацыяльных праблемаў, пастаўленых перад нашым грамадзтвам Чарнобыльскай трагедыяй. Аўтары выданьня – лепшыя спэцыялісты абласной больніцы, магілёўскага філіялу і галаўнога офісу Рэспубліканскага навукова-дасьледчага Інстытуту прафэсійнай паталёгіі, абласной санэпідслужбы – надзвычай даходліва і перакаНаўча адрасаваліся пайменнай брашурай перш за ўсё да практыкуючых калегаў зь лякарняў і паліклінікаў.




Вельмі важна таксама, каб бюлетэнь заўважылі абласное і гарадзкое ўпраўленьні аховы здароўя (гэтае некамэрцыйнае выданьне нельга набыць у кнігарні ці шапіку). Яно будзе разасланае "Лекарскім саюзам" па адпаведных установах, дзе, магчыма, прызвычаіліся штодня атрымліваць кучы мэтадычнай, распарадчай ды іншай службовай літаратуры, на якую мала зьвяртаюць увагі. Але бюлетэнь, нягледзячы на падманьліва простую назву "Чарнобыль і здароўе", – зусім ня той выпадак. Кожны мэдычны работнік, каму брашура трапіць на вочы, павінен кінуць усё (акрамя хворых, зразумела) – і прачытаць яе.

***H.S.***

Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА
«КОЛА СЯБРОЎ».

*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*

*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 23. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 06.12.2001 г. а 17.10.